ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 8** (2358) **24 лютага 1994 г. Выдаецца з 1955 г.**

**Цана 30 рублёў.**

## ПАЛІТЫКА, СТАЧКІ І САСІСКІ




**Падзея, якой з трывогай чакалі вышэйшыя ўлады і на якую столькі надзей ускладалі тыя, хто знаходзіцца ў бестэрміновай апазіцыі да іх, адбылася. Вярхі, нарэшце, уздыхнулі ўпэўнена і задаволена: "Праваліліся!" Апазіцыя і ўсе, хто гуртуецца вакол яе, папярэдзілі: "Мы яшчэ прыйдзем сюды 22 лютага, у дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета..."**

**Намечаная на 15 лютага бестэрміновая палітычная забастоўка, галоўнай мэтай якой было прымусіць пайсці ў адстаўку ўрад В.Кебіча, вылілася толькі ў мітынг на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Яго масавасць вызначалася ў залежнасці ад палітычных сімпатый -- прыхільнікі вызначалі лічбы ад 10 да 20 тысяч удзельнікаў, праціўнікі -- не называлі больш дзвюх тысяч.**

**Є адзін, і другі бок не сядзелі склаўшы рукі: арганізатары забастоўкі рабілі ўсё, каб раскатурхаць народ і вывесці яго на палітычныя барыкады; афіцыйныя ўлады -- патушыць іскры сацыяльнай незадаволенасці дробнымі падачкамі і абяцанкамі. Урад дзейнічаў хутка і рашуча: былі адменены высокія цэны на белы хлеб, зніжаны на цукар, выплачаны аднаразовыя грашовыя дапамогі пенсіянерам, мнагадзетным сем'ям, студэнтам і інш.**

**Вядома ж, у незалежных прафсаюзаў і апазіцыі няма такіх рэсурсаў. Єх выручыла адно Партыя аматараў піва, якая арганізавала на мітынгу ў сталіцы раздачу гарачых сасісак і хлеба яго ўдзельнікам.**

**Напэўна, нягледзячы на моцны мароз, людзей на плошчы Незалежнасці было б больш. Але ў большасці прахадных буйных прадпрыемстваў дзяжурылі ўзмоцненыя нарады міліцыі, і менавіта 15 лютага была абяцана рабочым доўгачаканая зарплата.**

**Дробны мітынговы зыб у сталіцы не выклікаў вялікай хвалі сацыяльна-палітычных выступленняў на беларускай правінцыі. Там было ўжо зусім ціха. Вясна 1991 года не паўтарылася. Але прывід яе блукае на Беларусі. Калі не будзе абяцаных урадам змен да лепшага, тады народ не стрымаюць яго разавыя сацыяльныя ін'екцыі. І не па гарачыя сасіскі ён пойдзе на плошчы.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мінск, 15 лютага 1994 года.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## НЕВЯДОМАЕ ПРА Тодара ЛЕБЯДУ

# "МНЕ ЛЁСАМ ВЫЗНАЧАНЫ ГЭТАКІ ПРЫМУС..."

Тодар Лебяда... Паэт, драматург, празаік... У трагічным жыцці паслякастрычніцкай Беларусі, бы ў люстэрку, адбіваецца пакутніцкае і не менш трагічнае яго жыццё. На жаль, імёны асобных нягоднікаў яшчэ і сёння дзе-нідзе ўпрыгожваюць фасады нашых вуліц, а шматлікія імёны сумленных, сціплых людзей, шчырых змагароў за дабро і людскасць, чые сэрцы раздушыла каваным ботам бязлітасная таталітарная сістэма, цяжка вяртаць з нябыту.

Вяртанне да нас Тодара Лебяды пачалося тры гады таму, калі пра яго згадаў у гутарцы з пісьменнікам Барысам Сачанкам вядомы паэт і празаік Масей Сяднёў, які жыве ў ЗША (часопіс "Маладосць" N 9 за 1990 год). У хуткім часе кааператыў "Адраджэнне" ў Мінску ажыццявіў факсімільнае выданне паэтычнага зборніка Тодара Лебяды "Песьні выгнаньня", што ўбачыў свет у 1944 годзе. А першага кастрычніка мінулага года ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" з'явіўся артыкул Сяргея Чыгрына пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка да 1962 года.



Далейшы лёс Тодара Лебяды да нядаўняга часу заставаўся невядомым. І вось я выпадкова даведаўся, што ў Чэрвені жыве яго дачка -- Ала Пятроўна Козел, былая супрацоўніца раённай газеты, цяпер пенсіянерка. Падчас нашай сустрэчы яна распавяла шмат цікавага з уласных успамінаў і ўспамінаў свайго бацькі.

Дарэчы, высветлілася, што асобныя факты з жыцця Тодара Лебяды, на думку Алы Пятроўны, пададзены ў друку не зусім дакладна, а змешчаны ў "ЛІМе" партрэт пісьменніка -- ці то няўдалы малюнак, ці то фота зусім іншага чалавека. У пацвярджэнне апошняга меркавання Ала Пятроўна пазнаёміла мяне з фотаздымкамі бацькі са свайго сямейнага альбома, рэпрадукцыі якіх, выкананыя Уладзімірам Дарагушом, аздабляюць гэты артыкул.

Такім чынам, Тодар Лебяда (сапраўднае прозвішча Пётр Фёдаравіч Шырокаў) нарадзіўся ў Віцебску 6 студзеня 1914 года. З маленства хлопчык спазнаў галечу і няшчымніцу: бацька памёр рана, маці -- Настасся Паедава -- атрымлівала за працу правадніцай на чыгунцы вельмі мала. У Віцебску падлетак скончыў сямігодку і чыгуначнае рамеснае вучылішча, потым паступіў у Мінскі педагагічны інстытут.

**НА ЗДЫМКУ: Тодар ЛЕБЯДА (здымак зроблены ў выгнанні).**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАЛІТЫКІ ІДУЦЬ У НАРОД*



**У вельмі напружаным тэмпе праходзяць рабочыя дні ў новага спікера беларускага парламента Мячэслава Грыба: выступленне на нарадзе Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, сустрэча з дыпламатамі, прэс-канферэнцыя з журналістамі... А нядаўна Мячэслаў Іванавіч наведаў калгас імя Дзяржынскага аднайменнага раёна, дзе пабываў на справаздачна-выбарчым сходзе гаспадаркі. І тут, і ў час гутаркі з працаўнікамі калгаса спікер спыніўся на пытаннях эканамічнага і палітычнага характару, якія тычацца Беларусі на сучасным этапе.**

**НА ЗДЫМКУ: у час наведання калгаса імя Дзяржынскага.**



**Нягледзячы на тое, што Станіславу Шушкевічу прыйшлося пакінуць пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, аўтарытэт яго сярод насельніцтва Беларусі вельмі высокі. Аб гэтым сведчаць тыя факты, што яго запрашаюць выступіць і перад раённымі актывамі, і перад працоўнымі калектывамі многіх гарадоў рэспублікі.**

**Сустрэчы праходзяць пры перапоўненых залах, як гэта было, напрыклад (на здымку), у Гомелі ў час выступлення С.ШУШКЕВІЧА на заводзе "Гомсельмаш" і ў Доме культуры будаўнікоў.**

*РЭФОРМЫ НАВЕРСЕ*

### НЕ КІЕМ — ДЫК ПАЛКАЙ

**Урад рэспублікі прыняў пастанову аб пераўтварэнні Дзяржаўнага сакратарыята па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы, які выклікаў нязменную крытыку, ва Упраўленне па каардынацыі дзейнасці адміністрацыйных органаў кіраўніцтва справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

**Начальнікам Упраўлення назначаны Валерый Паўлаў, які раней працаваў першым намеснікам дзяржсакратара па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы.**

**Урадавым сакратаром назначаны і Генадзь Данілаў, былы сакратар па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы, вядомы тым, што аб яго спатыкнуліся спадары Шыркоўскі і Ягораў.**

*ВІНШАВАННІ СПІКЕРУ*

### НЯХАЙ ВАМ ДАПАМОЖА БОГ

**"Прыміце сардэчнае віншаванне і малітвеннае пажаданне моцы духоўных і цялесных сіл, неабходных для плённага служэння на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі". З такім віншаваннем да Мячэслава Грыба звярнуўся Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій ІІ.**

**У сваім пісьме патрыярх выказвае надзею, што пад кіраўніцтвам новага спікера парламента Вярхоўны Савет рэспублікі ўнясе істотны ўклад у далейшае развіццё сяброўскіх адносін Беларусі і суседніх брацкіх краін, звязаных адзінымі нацыянальнымі вытокамі, духоўнай агульнасцю і культурнымі каштоўнасцямі.**

**Прывітальнае пісьмо ў адрас новага спікера накіраваў і мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён упэўнены, што новы кіраўнік парламента зможа ў поўнай меры праявіць сябе ў якасці адказнага і мудрага дзяржаўнага дзеяча, што яго праца прынясе рэспубліцы заслужаны аўтарытэт, а яе народу -- працвітанне.**

*БЮРАКРАТЫЯ*

### ТУРЫЗМ ЦЕРПІЦЬ БАНКРУЦТВА

**Як заявіў начальнік Упраўлення замежнага турызму Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Куранкоў, толькі за студзень гэтага года фінансавыя страты бюджэту склалі 3 мільярды рублёў і 200 тысяч долараў, якія павінны былі паступіць у дзяржаўную казну ад дзейнасці турыстычных фірм. Многія з іх вось-вось апынуцца на мяжы банкруцтва, бо сувязі з зарубежнымі партнёрамі парушаюцца, ануліраваны многія міжнародныя рэйсы.**

**А прычына ў нашай бюракратычнай сістэме. Згодна з прынятым Законам аб уездзе і выездзе, трэба зноў афармляць замежныя пашпарты. Раённыя аддзелы віз і дазволаў не ў стане зрабіць гэта хутка і проста. Патрабуецца зноў запаўняць анкеты, ужо новага ўзору, а іх няма. Чэргі за дазволам на выезд такія вялікія, што сёння ідзе запіс дакументаў на красавік-май месяцы.**

**Пакуль што няма каму выпраўляцца за граніцу.**

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

З 14 ЛЮТАГА ў Мінску пачаў функцыянаваць консульскі аддзел у пасольстве ЗША ў Беларусі. Аддзел будзе займацца выдачай усіх відаў неіміграцыйных віз. Цяпер беларусам няма патрэбы ездзіць у пасольства ЗША ў Маскве.

РЭСПУБЛІКА Беларусь абрана ў праўленне Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ). Гэта рашэнне прынята на арганізацыйнай сесіі Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН, якая адбываецца ў яе штаб-кватэры ў Нью-Йорку.

23 ЛЮТАГА ад гэтага года беларусы маюць адзначаць як Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Такой была прапанова ўрада, і яе падтрымаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі. Прапанова Ніла Гілевіча абраць для такога свята 3 ліпеня -- дзень, калі быў вызвалены ад немцаў Мінск, -- не прайшла.

У ПЕКІНЕ прыступіў да выканання сваіх абавязкаў гандлёва-эканамічны саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Кітаі Міхаіл Пеньеўскі.

НА 10 вакантных месцаў сёння ў Беларусі 53 беспрацоўныя. Толькі за год гэта лічба вырасла ў чатыры разы. Афіцыйны статус беспрацоўнага летась мелі 66,2 тысячы чалавек. Гэта 1,4 працэнта працаздольнага насельніцтва.

ПРЭС-САКРАТАРОМ Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прызначаны Уладзімір Замяталін. Кадравы вайсковец. Палкоўнік. Рускі. Да гэтага займаў пасаду намесніка начальніка ўпраўлення па сувязях і інфармацыі -- начальніка прэс-цэнтра Міністэрства абароны Беларусі.

ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ Беларусі прадпрыемствам Расіі на 1 студзеня 1994 года склала 555 261 мільён рублёў. А расіяне нам павінны 316 241 мільён рублёў.

16 ЛЮТАГА 1994 года рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ліквідавана Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Афіцыйны повад -- фармальныя прыдзіркі да статута арганізацыі, сапраўдная прычына -- удзел БЗВ у ахове рабочых у час палітычнай забастоўкі.

НА ПАСЯДЖЭННІ Сойму БНФ прынята заява аб актуальных палітычных, эканамічных і геапалітычных аспектах апошніх падзей у дзяржаве. У заяве адзначаецца, што Беларусь хочуць аддаць ва ўладанне і на рабунак мафіёзным сілам Расіі. І таму БНФ падтрымлівае ўсебеларускі страйк як цывілізаваны спосаб змены нелегітымнай улады.

## КАМУ ПАТРЭБНА САЦЫЯЛОГІЯ

# "МЫ МОЖАМ ПАСТАВІЦЬ ПЫТАННЕ ТАК, ШТО АТРЫМАЕМ АДКАЗ, ЯКІ ЗАХОЧАМ..."

**У N 52 "Голасу Радзімы" за мінулы год чытачы маглі пазнаёміцца з выступленнем сацыёлага, кіраўніка незалежнай сацыялагічнай службы "Грамадская думка" Давіда РОТМАНА. Ён падзяліўся апошняй на той час інфармацыяй пра настрой, з якім грамадства сустракала новы год, пра ўзрушанасць людзей з нагоды тых палітычных і эканамічных падзей, што працяглы час трымаюць Беларусь у напружанні. Наўздзіў, вынікі апытанняў сведчылі, што стан грамадзян даволі спакойны. Я нават засумнявалася ў дакладнасці інфармацыі. Але наступныя падзеі, у прыватнасці 12 студзеня, калі прафсаюзамі планавалася грандыёзная маніфестацыя пратэсту супраць збяднення працоўных, а на справе адбыўся невялікі мітынг, пераканалі: сацыёлагам трэба верыць, і не проста верыць, а часцей пытацца ў іх, а не ў шматлікіх астролагаў.**

**З гэтага пытання і пачалася наша новая сустрэча, але адказ я атрымала нечаканы: "Нічога не ведаю. Няма заказаў, няма грошай,**

*-- Давід Генрыхавіч, што ўвогуле ўяўляе сабой служба апытання грамадскай думкі ў нашай дзяржаве?*

-- На жаль, цяпер мы бачым вынікі працы практычна толькі дзвюх арганізацый -- Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі і нашай сацыялагічнай службы "Грамадская думка". Трохі раней, гады два-тры назад, у рэспубліцы стваралася нямала недзяржаўных сацыялагічных службаў: гэта былі малыя прадпрыемствы або нават прыватныя фірмы. Яны працавалі толькі па заказах, і таму ў наш цяжкі чам не вытрымалі і былі ліквідаваны. Сацыялагічныя даследаванні патрабуюць вялікай колькасці людзей і адпаведна вялікага фонду заработнай платы, ну а падаткі, якія мы павінны плаціць, наогул для многіх непад'ёмныя.

*-- Але ж ваша служба "Грамадская думка" таксама не дзяржаўная.*

-- Так. Мы пачыналі як малое прадпрыемства, зараз наш статус -- таварыства з абмежаванай адказнасцю.

*-- Атрымліваецца, што з дзяржаўных сацыялагічных службаў толькі акадэмічны інстытут праводзіць апытанні?*

-- Калі дакладна, Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук праводзіць апытанні і абнародуе іх, таму яны заўсёды на слыху, у той час як, напрыклад, сацыялагічныя лабараторыі універсітэта працуюць толькі на канкрэтнага заказчыка, які далёка не заўсёды выносіць вынікі працы на шырокую грамадскасць. Я бачу ў гэтым даволі сур'ёзную праблему, бо чым болей інфармацыі паступае ў прэсу, даходзіць да людзей, тым бліжэй будзе да нас ісціна.

Нашаму палітолагу, які займаецца даследаваннем сацыялагічнага аналізу або працуе над прагнозамі палітычнага развіцця, сапраўды не пазайздросціш: яму проста няма з чым працаваць, адпаведнай інфармацыі вельмі і вельмі мала. Але трэба адзначыць і яшчэ адзін бок праблемы -- не зусім уважлівыя адносіны некаторых палітыкаў да работы сацыёлагаў, больш дакладна, да вынікаў работы сацыёлагаў. Чаму так атрымліваецца, не ведаю. Магчыма, нам проста не давяраюць, а можа, адыгрывае сваю ролю занадта вялікая самаўпэўненасць некаторых дзеячаў: маўляў, і самі ўсё выдатна ведаем.

*-- Тут, мабыць, не толькі самаўпэўненасць, але і непрафесіяналізм?..*

-- І непрафесіяналізм таксама. Але звычайна гэты самы непрафесіяналізм і бывае ў людзей занадта самаўпэўненых. Мне здаецца, тым самым яны робяць вялікую памылку. Вось у 1990-м годзе мы праводзілі апытанні ў выбарчых акругах у Вярхоўны Савет Беларусі. Не хачу хваліцца, але хаця і не было тады яшчэ ніякага вопыту -- такую работу мы выконвалі ўпершыню, -- у Мінску ў 14-ці акругах з 16-ці здолелі зрабіць абсалютна дакладныя прагнозы: хто з кандыдатаў увойдзе ў другі тур і нават хто атрымае перамогу. І нічога незвычайнага тут няма, проста трэба працаваць добрасумленна.

Дарэчы, пра добрасумленнасць. Мне здаецца, што ў нас так мала друкаваных вынікаў сацыялагічных апытанняў яшчэ і таму, што некаторыя з маіх калег пасля выканання сваёй работы і атрымання за яе грошай далей зусім не цікавяцца лёсам зробленага. Так, яны маюць на гэта права, і тут можна казаць толькі пра грамадскую адказнасць. Магчыма, так адбываецца яшчэ і таму, што абнародаванне некаторых вынікаў часам звязана не тое каб з непрыемнасцямі, але незадаволеных застаецца нямала. Вядома, камусьці вынікі падабаюцца, а камусьці не. Мне таксама давялося сутыкацца з праявамі гэтага. Напрыклад, калі праводзілі даследаванні для Вярхоўнага Савета, здаралася, што праціборствуючыя бакі ставілі вынікі нашай працы пад сумненне і нават пыталіся, на каго мы працуем. Мы працуем толькі дзеля навукі, дзеля ісціны, хаця калі захочам, то можам паставіць пытанне так, што адказ будзе прадвызначаны. Але нам гэтага не трэба.

Нямала такіх незадаволеных бывае, калі праводзіцца даследаванне рэйтынгу палітычных партый. Тыя, хто сумняваецца ў яго аб'ектыўнасці, зусім не ўлічваюць, што самі, мабыць, і вінаватыя ў сумных для сябе выніках.

Я не хачу сказаць, што сацыялогія заўсёды дае толькі абсалютна дакладныя адказы. Гэта немагчыма хаця б таму, што ў нашых умовах грамадская думка вельмі мяняецца, яе нават цяжка назваць грамадскай думкай, гэта, хутчэй, грамадскія эмоцыі.

Некаторыя з нашых сацыялагічных службаў, здараецца, правядуць адно якое-небудзь даследаванне і ўжо склікаюць брыфінгі, прэс-канферэнцыі. Але ці варта гэта рабіць, бо ніколі на падставе, хай сабе і даволі вялікага, але адзінага даследавання сур'ёзныя прагнозы немагчымыя. Ёсць і адваротныя падыходы. Вось, напрыклад, мы выконвалі заказ урада. Наколькі я ведаю, такія ж заказы ўрад размясціў яшчэ ў некалькіх сацыялагічных службах. Калі былі атрыманы вынікі, аналітыкі на падставе параўнання змаглі даць сапраўды рэальныя адзнакі нейкім з'явам і становішчам. Менавіта такі падыход самы плённы. Але зноў падкрэслю: невялікая колькасць даследаванняў -- не столькі віна, колькі бяда сацыёлагаў, бо яны вымушаны сёння працаваць толькі па заказах. Няма заказа, няма і працы.

*-- Такая сітуацыя склалася толькі на Беларусі?*

-- Я думаю, што ў некаторых сацыялагічных службах Расіі, Украіны становішча падобнае, хаця там, безумоўна, ёсць аўтарытэтныя сацыялагічныя інстытуты, якія атрымліваюць пастаяннае фінансаванне і маюць пастаянныя заказы.

*-- Што ўяўляе сабой служба "Грамадская думка"?*

-- Яна даволі вялікая. Ёсць група аналітыкаў, задача якіх распрацоўваць праграмы, анкеты, аналізаваць матэрыял. Потым група, якая называецца "рэспубліканская апытальная сетка". Ёсць служба апрацоўкі інфармацыі на камп'ютэрах: мы маем пакеты самых сучасных праграм і можам працаваць на высокім, сапраўды еўрапейскім узроўні.

Наш асаблівы гонар -- гэта шырокая апытальная сетка, пра якую я ўжо казаў. Цэлы калектыў людзей, якія амаль у 60-ці гарадах Беларусі працуюць непасрэдна над апытальнымі анкетамі, збіраюць усе звесткі, якія потым аналізуюцца спецыялістамі ўжо тут, у Мінску.

Але калі за мяжой сацыялагічныя анкеты перадаюць па камп'ютэрных сетках, па факсмадэмнай сувязі, мы -- праз вадзіцеляў аўтобусаў.

*-- Дарэчы, а як у вас з міжнароднымі сувязямі?*

-- Мне даводзілася бываць у розных замежных фірмах: у інстытуце Гэлапа, у некаторых сацыялагічных інстытутах Аўстрыі. Зараз прымаем удзел у міжнароднай праграме "Новы дэмакратычны барометр", якая ахоплівае дваццаць краін Еўропы. І вось што цікава: нягледзячы на тое, што ў нас практычна няма ніякай тэхнікі, якасць нашай работы не саступае замежным аналагам.

*-- Давід Генрыхавіч, калі вы працуеце над міжнароднымі праграмамі, ці не даводзіцца вам чуць у свой адрас папрокі ў тым, што выдаяце "ворагу" нейкія сакрэты, што гэта непатрыятычна?*

-- Увогуле, хто захоча, той мае магчымасць абвінаваціць нас у нечым падобным. Але гэта дылетанцкі падыход. Усё, што мы атрымліваем па міжнародных апытаннях, зусім не сакрэт, такія даныя звычайна атрымліваюцца і па ўнутраных апытаннях і публікуюцца. Мяне хвалюе іншы аспект. Здараецца так, што некаторыя з маіх калег забываюць пра сваю прафесійную годнасць і часам выступаюць у ролі проста зборшчыкаў інфармацыі для замежных сацыялагічных службаў.

Я не хачу нікога абвінавачваць. У тым ліку і замежных калег: яны вырашаюць свае навуковыя праблемы. І між іншым, калі аднолькавыя анкеты рассылаюцца ў некалькі краін, то зразумела, што ўносіць свае карэктывы ў іх мы не можам. Проста заўсёды трэба бачыць, з кім маеш справу. Асабіста я імкнуся мець кантакты з шырокавядомымі арганізацыямі, тымі, што ўжо добра зарэкамендавалі сябе ў навуковым свеце.

*-- А ці супрацоўнічаюць з сацыёлагамі айчынныя камерцыйныя структуры?*

-- Пакуль не вельмі шырока. Па-першае, людзі ніяк не прызвычаяцца да новых цэн. Напрыклад, раней рэспубліканскае апытанне каштавала дзесяць тысяч рублёў. Сёння -- дзесяць мільёнаў. І мы ў гэтыя дзесяць мільёнаў ледзь-ледзь укладваемся. Па-другое, пакуль яшчэ беларускія прадпрымальнікі, таксама як і некаторыя палітыкі, лічаць сябе і так вельмі дасведчанымі, а таму ніякія сацыялагічныя даследаванні ім непатрэбныя. Думаю, што з цягам часу яны сваю пазіцыю зменяць. Тым не менш нам даводзілася выконваць заказы камерцыйных структур, у прыватнасці, некаторых банкаў. Праўда, што гэта трэба рабіць пастаянна, яны таксама яшчэ не ўсвядомілі. Але, мне здаецца, жыццё ўсіх навучыць, што рабіць, каб утрымацца на паверхні.

*-- Такім чынам, я зразумела, што сацыёлагаў нам пакуль хапае, і нават прапанаванне перавышае попыт. Ці так гэта?*

-- Як вы ведаеце, я працую яшчэ і ва універсітэце. Сёлета ў нас адбудзецца першы выпуск дыпламаваных сацыёлагаў. Гляджу на іх, і здаецца мне, што значная частка будзе працаваць зусім не сацыёлагамі. Гэта сумна. Але ўсё-такі не безнадзейна. Сацыялагічных службаў павінна быць шмат. Паміж імі павінна існаваць пастаянная канкурэнцыя. Толькі тады яны будуць развівацца самі і адпавядаць патрабаванням грамадства, якое таксама ў сваім развіцці не стаіць на месцы.

**Гутарыла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# ЦІ ПРОСТЫЯ БЕЛАРУСЫ...

"Мы, простыя вясковыя працаўнікі,..", "Я, простая калгасніца...", "Просты рабочы"... Гэтыя выразы даволі часта сустракаюцца ў нашых сродках масавай інфармацыі, гучаць яны па радыё і тэлебачанні, друкуюцца ў газетах і часопісах.

Яшчэ некалькі год назад мы чулі: "просты савецкі чалавек". Сёння трошкі змянілася. Ужо чуем: "Я простая беларуская жанчына".

Звыклымі сталі для нас гэтыя выразы, мы нават у прыватнай размове з сябрамі ці знаёмымі іх часта выкарыстоўваем. І не здзіўляемся. Сапраўды, што дрэннага ў слове "просты"? У слоўніках гэтае слова тлумачыцца як "добразычлівы", "дабрадушны", "самы звычайны", "які не выдзяляецца ад іншых". Праўда, для абазначэння прафесіі гэта не зусім пасуе, аднак просты чалавек -- гэта вельмі добра. І ў гэтым выразе, значыць, няма нічога дрэннага.

Аднак ёсць яшчэ адно значэнне гэтага слова -- "недалёкі". На жаль, менавіта гэты сэнс усё часцей і часцей маецца на ўвазе напрыканцы XX стагоддзя.

І таму, калі дыктар радыё часам заяўляе: "Гэта не будзе зразумелым простым слухачам", то такія словы гучаць як прыніжэнне нашага працоўнага люду. І гэта добра павінны ўсведамляць інтэлігенты нашай нацыі, якія рыхтуюць перадачы ў эфір.

Калі мы скажам "просты журналіст", "просты вучоны", "просты прэзідэнт", то атрымаецца нейкая бязглуздзіца. Ніхто не кажа так і пра пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, кампазітараў, дактароў. Праўда, у апошні час распаўсюдзілася "просты настаўнік", быццам быць педагогам на роднай зямлі -- самая вялікая абраза. Аднак часцей за ўсё ў Беларусі менавіта за рабочымі і калгаснікамі замацавалася гэтае слова "просты". І гучыць яно вельмі зняважліва.

Быццам праца сёння ўжо беларусам не патрэбна, адну спекуляцыю пад моднай шыльдай "прадпрымальніцтва-камерцыя" ім падавай.

А ад слова недалёка, як вядома, і да справы. Вось ужо ў нас і мараль пачала панаваць рабская: менш граматы ў галаве -- больш грошай у кішэні. Можна тады ўсё прадаць і ўсё набыць. Ёсць у нас ужо спадары і жабракі, багатыя і бедныя. І "Проста Марыі" і нават "Мар"яны" паказваюцца з шалёным размахам на экране для Манек-Іванаў, якія не помняць сваіх каранёў, якім напляваць на сваю Бацькаўшчыну, абы каўбасы за 3 рэ хапіла зноў, ды бязглузды мексіканскі тэлесерыял хапіла часу паглядзець. Дайшло да таго, што паўсюдна нярэдка беларускія даяркі спыняюць даіць кароў, а ідуць глядзець, як заморскія багатыя плачуць...

Здаецца, малое слова "просты". Але з яго дапамогай у нас прыніжаны рабочы чалавек, яго праца. А праца ж -- аснова ўсяго існага на зямлі.

Будучыя псеўдакапіталісты сёння ў Беларусі вельмі актыўныя, а рабочыя і калгаснікі маўчаць і церпяць. Канешне, цяпер з "прыхватызатарамі" цяжка ваяваць. У іх багацце, мо, ужо большае, чым у мексіканскіх герояў, аднак яно атрымана з гарбоў рабочага чалавека. І выходзіць, што голас беларускага народа сёння нічога не значыць.

У нас стала не хапаць не толькі прадуктаў, але і самай элементарнай культуры

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"





# НЯХАЙ ЗВІНЯЦЬ "КАЛАСКІ"

Кожны год Беларускае таварыства "Радзіма" ладзіць семінары для ўдзельнікаў харавых калектываў Беласточчыны. Трэба адзначыць, што ў сувязі з цяжкім эканамічным становішчам у краіне праводзіць такія мерапрыемствы з года ў год усё цяжэй і цяжэй: няма сродкаў. Але ж "курсанты" чакаліся своеасаблівыя, і таму былі выкарыстаны ўсе магчымасці, каб сустрэча адбылася і госці адчувалі сябе ў Беларусі ўтульна. А справа ў тым, што ў адрозненне ад мінулых гадоў, калі сюды прыязджалі прыхільнікі мастацкай самадзейнасці сталага ўзросту, у пачатку лютага ўдзельнікамі семінара стала юнае пакаленне. Упершыню на радзіму сваіх бацькоў прыехаў дзіцячы гурт "Каласкі", а гэта восем дзяўчынак ва ўзросце ад 12 да 15 гадоў і іх кіраўніца Ала Дубец.

Дзесяць дзён -- тэрмін невялікі, але і за гэты час дзяўчынкі шмат што паспелі зрабіць. Заняткі праводзіліся ў Беларускім інстытуце праблем культуры. Курыравала групу метадыст вышэйшай кваліфікацыі Тамара Ізотава. Разам з ёю працавалі такія выкладчыкі, як Тамара Гуліна (вакал), Уладзімір Раговіч (беларускі песенны фальклор), Валянціна Гамбалеўская (харэаграфічныя разводкі), Уладзімір Гурбо-Новік (музычны кіраўнік). Дзяўчынкі працавалі з радасцю і захапленнем. У выніку яны развучылі дванаццаць новых беларускіх песень, атрымалі пэўныя навыкі па майстэрству вакала (як, напрыклад, пастаноўка голасу), а таксама ў харэаграфіі. На заканчэнне яны выступілі з невялічкім канцэртам.

Акрамя вучобы, была і культурная праграма, таксама даволі насычаная. Падлеткі наведалі Дзяржаўны беларускі тэатр оперы і балета, тэатр музычнай камедыі, былі на канцэртах у Белдзяржфілармоніі. Вядома, пазнаёміліся з горадам, яго славутымі мясцінамі, і нават зрабілі сякія-такія пакупкі. Перад ад'ездам першы намеснік старшыні таварыства "Радзіма" Мікалай Васілёнак запрасіў дзяўчынак на гарбату. Частаваліся яны цукеркамі і піражнымі, дзяліліся ўражаннямі аб семінары, аб Мінску, а на развітанне атрымалі яшчэ на памяць у падарунак і невялікія беларускія сувеніры.

Спадзяёмся, гэта не апошні іх візіт у Беларусь. У чэрвені плануецца фестываль польска-беларускай песні ў Гродне, і мяркуецца, што гурт будзе браць у ім удзел. Няхай звіняць "Каласкі", а мы пажадаем юным спявачкам беларускай песні поспехаў і перамог.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: канцэрт на развітанне ў Беларускім інстытуце праблем; сустрэча ў таварыстве "Радзіма".**

## З БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# ПОКЛІЧ ЧАСУ

Усяму свой час, гаварылі ў старажытнасці. Ёсць час раскідаць каменні і час іх збіраць.

Шмат каменняў за сваю многавяковую гісторыю параскідвала Беларусь, так шмат, што сёння амаль не па крупінках трэба збіраць па ўсяму свету і сваю гісторыю, і культуру, і нават мову. Мы добра ведаем і вінаватых у тым, што так здарылася. Многае спісваем на гістарычны лёс, на нашых суседзяў, чужых і сваіх славянаў-брацця, але мне здаецца, што ісціна не будзе поўнай, калі не ўзяць добрую частку віны і на саміх сябе, на наш беларускі народ. Бо відавочна ж і тое, што больш цвёрдыя і моцныя нацыі, маючы амаль што аднолькавыя з намі ўмовы, зберaглі і сваю культуру, і звычаі, і мову. Напрыклад, Украіна, асабліва Галіччына.

Ці як растлумачыць тое, што на цудоўнай зямлі Украіны сёння пражывае амаль паўмільёна беларусаў, але яны ўсе разрозненыя, згубіліся сярод іншых нацыяў і ніякай самасвядомасці не маюць, нават не вызначыліся арганізацыйна?

У Львове другі год працуе нацыянальна-культурнае таварыства "Белая Русь" імя Ф. Скарыны, але заявілі больш-менш актыўна аб сваім нацыянальным самаўяўленні, аб сваёй беларускасці 1--2 працэнты. Што гэта? У чым прычыны такой абыякавасці? Ці можа зноў шукаць іх у гістарычных абставінах? Зараз мы перажываем такі час, калі ўсе народы, нават самыя маленькія, імкнуцца адрадзіцца. Што ж датычыцца Украіны, то, на мой погляд, яна робіць усё магчымае, каб спрыяць нацыянальнаму адраджэнню ўсіх нацыяў, што жывуць на яе зямлі, таму што гэта ёсць умовай адраджэння самой Украіны. Аб гэтым сведчыць і закон, прыняты Вярхоўнаю Радаю "Аб нацыянальных меншасцях", і першыя крокі створанага Міністэрства па справах нацыянальнасцяў і міграцыі. Але, на жаль, у яго магчымасці вельмі абмежаваныя.

Наша таварыства "Белая Русь" мае ўжо пэўныя набыткі. І галоўным з іх мы лічым тое, што каля дзвюх соцень нашых сяброў адчулі сваё дачыненне да справы адраджэння нашай Бацькаўшчыны. Мы правялі некалькі культурна-асветных мерапрыемстваў з шырокім удзелам грамадскасці Львова, у тым ліку ўрачыста адзначылі стагоддзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры і грамадскага дзеяча М. Гарэцкага. Адзначалі таксама асобныя нашы нацыянальныя і народныя святы. Адкрылі невялікі аддзел беларускай літаратуры ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Л. Украінкі. З падтрымкай і дапамогай дзяржаўнай адміністрацыі вобласці пастаянна, два разы на месяц, выходзіць наша радыёпраграма "Весткі з Беларусі". Дарэчы, для падрыхтоўкі яе мы выкарыстоўваем "Голас Радзімы". Наладжаны такія-сякія эканамічныя і камерцыйныя структуры.

Але мы разумеем, што справу нацыянальнага адраджэння можна рабіць больш эфектыўна і паслядоўна, калі нашы намаганні будуць аб'яднаны. Таму праўленне нацыянальна-культурнага таварыства "Белая Русь" імя Ф. Скарыны выходзіць з прапановаю да беларусаў Галіччыны -- аб'яднацца! У нас ёсць аб чым памеркаваць і параіцца. Мы прапануем агульнымі намаганнямі наладзіць выпуск беларускамоўнай газеты ці часопіса пад умоўнай назвай "Беларус Галіччыны", аналагічнай той, што выпускаецца ў Мінску -- "Украінец у Беларусі". Ёсць прапановы і па сумеснай эканамічнай дзейнасці ды шмат іншых добрых спраў на карысць Беларусі і Украіны. Таму мы запрашаем адгукнуцца і наладзіць супрацоўніцтва, уключыцца ў падрыхтоўку і правесці сустрэчу альбо сход беларусаў Галіччыны ў чэрвені--ліпені 1994 года ў Львове.

**Адрас нашага таварыства:**
**290020, Львоў, вул. Пятра Панча, 10/30.**
**Тэлефоны: 52-22-02, 42-61-20, 76-18-95**
**альбо рэдакцыі: Львоў, вул. Князя Рамана, 6, праграма "Весткі з Беларусі".**

З павагаю

**старшыня таварыства**
**Б. ЦІМОШЧАНКА.**

# ЦІ ПРОСТЫЯ БЕЛАРУСЫ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

ў адносінах паміж людзьмі. Прычыны гэтага вядомы нашаму ўраду, але ніхто не хоча іх вырашаць, бо справядлівае вырашэнне не патрэбна сытым вярхам, якія нячэсна наеліся.

І адна з прычын -- свядомае прыніжэнне нашым урадам самой працы, яе значэння ў грамадстве. Паняцце "дысцыпліна працы" сёння стала пустым гукам.

Несправядлівае размеркаванне прыярытэтаў працоўнай дзейнасці, дзікунскае абязлічванне саміх працаўнікоў на вёсцы (пра які-небудзь прыярытэт вёскі над горадам і гаварыць смешна, калі нават гумовых ботаў сёння калгасніку няма), на будоўлі, на заводскай вытворчасці. Пры сацыялізме паняцце "праца" не было ніколі так прыніжана.

Людзей працы сёння ў Беларусі не ўспамінаюць, не ведаюць, не помняць. Іх лічаць "быдлам", "чорнымі", "смярдзючымі", "потнымі". Нават пра капеечныя граматы забылі.

Атрымліваецца, што ўсё ў нас робіцца само па сабе, без людзей -- хлеб расце і нават дзесяціпавярховыя будынкі. Ды "дзякуй" сёння за хлеб і дамы працаўнікам ніхто не кажа.

А ўсё, аказваецца, проста. Ёсць і яшчэ адно значэнне слова "просты" -- які належыць да непрывілегіраваных, эксплуатуемых класаў, "нешляхецкага паходжання".

Гэтае значэнне да 1917 года дзяліла нашых продкаў на багатых і бедных.

Так што задумаемся, перш чым зноў ужыць слова "просты".

З павагай

**Канстанцін КАРНЯЛЮК, просты беларус, педагог.**

г. Віцебск.



**Гэты казачны гарадок для дзяцей (на здымку) узводзіцца ў Пінску. Будуе яго трэст N 2. На рахунку гэтай арганізацыі нямала ўзведзеных прамысловых аб'ектаў, гарадскі Палац культуры, комплекс жылых дамоў у Паўночным мікрараёне. І таму асабліва прыемна, што ў наш няпросты час за дарослымі справамі работнікі трэста не забыліся пра дзіцячыя інтарэсы. Нядаўна ўступіў у строй новы дзіцячы сад "Чабурашка", а цяпер рыхтуецца прыняць непаседлівых наведвальнікаў і гэты гарадок -- выдатны падарунак пінскай дзятве**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

Мікола ШЧАГЛОЎ

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)



Нельга уявіць сабе, хто з іх больш хваляваўся, слухачка ці сьпявак. Усе авацыі публікі, скіраваныя і да сына, маці ўспрыймала, як собскае шчасьце і сьлёзы ліліся з ейных вачэй. А калі канцэртант засьпяваў калыханку і сказаў са сцэны: "Калі я пакідаў маці, дык гэтую калыханку сьпявала мне яна, а цяпер, вярнуўшыся, я ужо сам ёй яе засьпяваю", дык матка і зусім кінулася у нястрыманы плач. Публіка тут літаральна ашалела. Бясконцыя авацыі і крыкі падзялілі гэтым разам паміж сябе і слухачка-матка і сьпявак-сын.

Дні спатканьня мінаюць хутка, іх і не заўважыш. Тэрмін дазволу для Забэйды-Суміцкага скончыўся, трэба было зноў ехаць і блукаць па сьвеце. Аднак, як кажуць "сьвет не бяз добрых людзей", і тут знайшліся знаёмыя, якія мелі моц. Яны парупіліся аб тым, каб сьпеваку можна было застацца. На яго зьвярнулі увагу польскія музычныя колы і, неўзабаве, Забэйда-Суміцкі атрымлівае запросіны уступіць у Пазнанскую опэру. Працу тут ён не успамінае добрым словам. У опэры былі выключна палякі, з шавіністычнымі настроямі, яны, звычайна, скоса пазіралі на новага актора "хлопскага" паходжаньня. Блізу адразу яны надалі яму крыху пагардлівае прозьвішча "Крэсовяк" (значыцца, чалавек з "крэсаў", з узьмежжа). Ускладнялася справа і тым, што Забэйда-Суміцкі тады зусім дрэнна ведаў польскую мову, што таксама выклікала кпіны "польскіх сяброў". Запрошаны выступаць у Пазнанскай опэры у рэпэртуары, які яму быў добра ведамы ("Сэвільскі цырульнік", "Рыгалето", "Травіята"), Забэйда-Суміцкі спачатку мала турбуецца інтрыгамі , але у гэтых опэрах яму сьпяваць не даюць, а вызначаюць удзельнічаць у тых, што яму знаёмыя толькі па назовах, і якія ён ня выконваў. (Опэры Моцарта, "Барыс Гадуноў" Мусаргскага, "Юлі Цэзар" Гэндэля), чужая мова, выключная тонкасьць Моцартаўскае партытуры і драматычная цяжкасьць Гэндэля, усё гэта патрабавала няўтомнае працы і галоўнае, --часу, а тут сьпяшаліся, нэрвавалі. Ясна, што поўнага уражаньня ад выступленьняў не заставалася. Нарэшце, Забэйдзе-Суміцкаму даюць ягоную улюбёную партыю Ленскага, але толькі у паўторным спэктаклі, першы павінен сьпяваць тэнар-паляк. Тым, хто ведае правінцыяльную опэру, зразумела, што для прэм'еры акторы атрымваюць дастатковую колькасьць пробаў, што на прэм'еры ідзе лепшая публіка, што аб прэм'ерах піша прэса. Аднак тут надарылася Забэйдзе-Суміцкаму, хоць трохі, "па мастацку адпомсьціць" і патурбаваць нэрвы і "сваім сябром". Паляк-тэнар, што пяяў прэм'еру, ужо дамовіўся з дырыгентам, як ён будзе бісаваць знаную арыю Ленскага і загадзя цешыўся сваёй удачаю. Надыйшоў урачысты мамэнт. Арыя адсьпяваная, але што гэта? Толькі слабенькія плёскі. Дырыгент крыху пачакаў і пайшоў далей... У другім спэктаклі, які сьпяваў Забэйда-Суміцкі, атрымалася затое зусім іншае. Ні дырыгент, ні партнёры, ні ён сам ані не рыхтаваліся да бісаваньня. Аднак, калі "дублёр" скончыў арыю, дык захопленая публіка дружна і моцна пачала плёскаць і выклікаць сьпевака. Як не прабаваў дырыгент пайсьці далей, яму не давалі і... давялося, з болем у сэрцы, паўтарыць арыю, якую сьпяваў "хлоп-крэсовяк".

Пры такіх абставінах і умовах працаваць далей у Пазнанскай опэры было-б сьмешна. Былі і іншыя прычыны: хацелася больш шырокае дзейнасьці і цягнула зноў, як і у Італіі, да камэрных канцэртаў, дзе можна скінуць з сябе усё тое, што зьвязвае і перашкаджае. Скончыўшы сэзон, Забэйда-Суміцкі накіроўваецца у Варшаву. Нямаведама, ці знайшоў-бы ён там належнае сабе месца, ці атрымаў-бы мастацкае задавальненьне? Выратавала тут зноў "акторская выпадковасьць". Пры прыезьдзе у Варшаву Забэйда-Суміцкі выступіў раз па радыё. Гэтае выступленьне і вырашыла аб ягоным лёсе ня толькі на нейкі час, але на усё жыцьцё. Мяккі, лірычны голас, выразная дэкцыя, пачуцьцёвае выкананьне, -- усё гэта было надзвычайна радыёфанічнае, як быццам самою прыродаю створанае для мікрафону. Пасьля першага выступленьня, адразу пасыпаўся з розных мясьцінаў дождж лістоў з пажаданьнямі і патрабаваньнямі новых выступленьняў. Хаця польскае радыё па палянізатарскіх прычынах і не хацела прыняць Забэйду-Суміцкага на сталае месца, аднак зусім адмовіцца ад ягонага удзелу яно ня лічыла магчымым і запрашала яго на асобныя канцэрты, дзе ён пяяў усё часьцей і часьцей і набыў нават сярод кіраўнікоў-палякоў некаторыя сымпатыі. Радыё шмат чым дапамагло Забэйдзе-Суміцкаму стацца вельмі папулярным сьпеваком-выканаўцам у Польшчы і за ейнымі межамі. Запросіны на канцэрты пачынаюць надыходзіць адны за адными. Мастак аб'яжджае блізу усе польскія гарады, наведвае Лацьвію, Эстонію, Літву. Вайна 1939 году засьпела Забэйду-Суміцкага у Варшаве. Гэта было літаральнае пекла, і як ён захаваў жыцьцё, -- ён і сам ня ведае. Ані сьвятла, ані вады, ані ежы -- усё вакол гарыць і палае. Пасьля прыходу нямецкае арміі, аднак, зноў пачалося жыцьцё. Сьпявак працягвае сваю канцэртную дзейнасьць, выступае у Чэхіі, аб'яднанай Нямеччыне, усюды радасна сустрэты публікаю і прэсаю. Імя Забэйды-Суміцкага пазнае блізу уся Эўропа.

### РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

**Набыцьцё собскага мастацкага твару. -- Беларуская народная песьня і Забэйда-Суміцкі. -- Канцэрты, радыё і запісы на патэфонныя пліткі. -- Рэпэртуар.**

*"Набіраў па кропельцы,*
*А набраў вядзерца,*
*Напаіўшы песьнямі*
*Маладое сэрца.*
*Пранясу вядзёрачка*
*Праз усе парогі,*
*Пакланюся нізенька*
*Беларусі ў ногі!"*

**Л.СЛУЧЧАНІН.**

Аднак аднаго імя яшчэ мала. Трэба, каб яно было арыгінальным. Арыгінальнае імя -- гэта сэнс жыцьця для кажнага творцы. Але знайсьці яго удаецца ці шмат каму. Колькі добрых, здольных людзей шукалі яго і не пайшлі далей эпігонства, насьледаваньня больш яскравых талентаў, як спадарожнікі бліскучае плянэты. Гэтак для каляратурных сапрана зьзяе імя Паці, для тэнараў -- Каруза, для барытонаў -- Бацісьціні, для басоў -- Шаляпін. Знайсьці імя --значыцца знайсьці глебу, на якой мог бы разьвіцца і расьцьвісьці талент выканаўцы у самабытны, своеасаблівы спосаб. Дарма, што вялікія злольнасьці, працавітасьць, набыцьцё папулярнасьці, --Забэйда-Суміцкі, магчыма, так бы і затрымаўся усёткі на шляху эпігонства, таму што у вакальным мастацтве у ягоны час ужо былі "адкрытыя усе Амэрыкі". Але Забэйда-Суміцкі быў адзначаны лёсам, як чалавек, якому суджана было пралажыць новую дарогу. Глебаю для стварэньня свайго арыгінальнага твару сталася для Забэйды-Суміцкага беларуская народная песьня.

Беларускі народ можа лічыцца адным з найбольш музыкальных народаў сьвету. Ёсць вельмі добры прыклад песеннае здольнасьці беларусаў, аб якім так хараша сказана у "Апокрыфе" М.Багдановіча... На пытаньне Хрыста, беларус-музыка адказвае:

"... пяюць у нас на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Сёмуху, на Яна Купалу, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках. Пяюць на радзінах і на хрэсьбінах, пяюць, дзіця калыхаючы, і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах і на вечарынах, і на вясельлі і на хаўтурах, і у бяседзе, і у працы, і у маскалі ідучы, і ува усякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць... І прамовіў Хрыстос: "Жывая яшчэ душа у народзе гэтым!"...

Гэтая жывая народная душа і ягоная мудрасьць і стварылі у гісторыі народнае культуры каштоўную скарбніцу песеннага фальклёру, выключна багатага па зьместу, тэматыцы, формах і жанрах. Звычаі і абрады, праца, сямейныя падзеі, грамадзкі і своеасаблівы быт народу, разнастайныя душэўныя настроі, пачуцьці і імкненьні, -- усё гэта выразна адлюстраваў народ у сваёй песьні. Нарадзіўшыся у сівой мінуўшчыне, беларуская народная песьня зьяўляецца найбольш старадаўным узорам агульнаславянскае культуры. Колькі разоў ворагі беларускага народу прабавалі падпарадкаваць народ сваім культурным уплывам, але беларускі народ сьвята і моцна захоўваў сваю мову, сваю песьню і пранёс яе праз стагодзьдзі да нашага часу. Усе, хто так або інакш сустракаліся з беларускаю народнаю песеннасьцю, заўсёды падпадалі пад ейныя чары, а больш асьвечаныя заўсёды бачылі у ёй і своеасаблівыя, арыгінальныя, самабытныя рысы, што яскрава адрозьніваюць яе ад песеннасьці іншых народаў. Гэтыя рысы ня страціліся і сяньня. Беларусы, наагул, належаць да тых нацыяў ( а гэткіх вельмі ня шмат), якія асабліва старанна захоўваюць вернасьць даўніне і народная беларуская песьня у гэтым сэньсе зьяўляецца найлепшым па цікавасьці дакумантам. Старадаўнія лады-гукарады, гукальныя і жалобныя музычныя звароты, вольная мэтрыка і рытміка, лаканічнасьць пабудовы напеву, -- усё гэтае паходзіць з часоў глыбокае старадаўнасьці, калі песьня была спадарожнікам магічна-заклінальных абрадаў, сьвятаў і працоўных працэсаў. Сьціпласьць, абмежаванасьць, караткасьць музычнае пабудовы напеву з аднаго боку і глыбіня пачуцьцяў з другога -- зрабіліся характарнай зьявай для беларускае песеннасьці, а традыцыйнасьць, вернасьць, якое трымаліся складальнікі песьняў у сваёй творчай практыцы, далі магчымасьць на працягу гісторыі так адшліфаваць і скрышталізаваць песьню, што лепшыя ейныя прыклады вырастаюць прад намі, як узоры мастацкае мініятуры, падобныя да гэніяльных афарызмаў. Гэта у поўнай меры шэдэўры народнага песеннага мастацтва наагул. Няма нічога дзіўнага, што беларуская народная песьня, якая мае гэткія якасьці, ня толькі магла захавацца ад чужацкіх уплываў, але і, наадварот, сама мела вялікія уплывы на народную творчасьць іншых народаў: расейцаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў і г.д.

У сэрцы Забэйды-Суміцкага, адарванага на доўгія годы ад родных мясьцінаў, народная беларуская песьня жыла і панавала таксама, як і ягонае каханьне да свае Бацькаўшчыны. Вясковае паходжаньне, успаміны аб прыгожых, сьпяваных маткаю, беларускіх песьнях, што чуў яшчэ хлапчуком Забэйда-Суміцкі, жыцьцё вёскі з песьняй у сьвяты, пры працы, у сям'і, далі сьпеваку грунтоўны фундамант, назаўсёды захавалі у ім каханьне і зацікаўленасьць стыхіяй беларускага песеннага фальклёру. У школе, у настаўніцкай сэмінарыі, ня гледзячы на афіцыйна-расейскі дух, пытаньні беларускае песьні таксама ня былі зусім адкінеыя, наадварот, тут былі людзі, якія займаліся ня толькі сьпяваньнем, але і запісваньнем, зьбіраньнем фальклёру. Такім чынам Забэйда-Суміцкі у гады навукі атрымаў паважныя погляды на тую песьню, што ён так ахвотна сьпяваў у маленьсьцьве. І на чужыне гэтая песьня не пераціхала яму гучэць, яна была адпачынкам, лепшым сродкам заспакаеньня тугі па радзіме. І патрэбны быў толькі штуршок, каб прывесьці Забэйду-Суміцкага да адчуцьця сябе, як ейнага выканаўцы. Ступіўшы на родную зямлю, наш мастак упяршыню бярэцца за прафэсійнае выкананьне беларускіх напеваў, за іхную прапаганду. Праз Варшаўскае радыё па сьвеце загучэлі мэлёдыі "Маладога дубочка", "Чаму-ж мне ня пець" -- першых песьняў у рэпэртуары Забэйды-Суміцкага, ім-жа і запісаных. Дзякуючы выкананьню беларускіх песьняў, адразу-ж наладжваецца цесны кантакт Забэйды з беларускімі грамадзкімі коламі, галоўным чынам, з віленчукамі. Вільня з даўняе пары была цэнтрам беларускага адраджэнскага руху. Тут у пачатку XX стагодзьдзя выходзіла "Наша Ніва", якая гуртавала лепшыя культурныя сілы нацыянальнага адраджэньня, тут пачала моцна і маляўніча разгортвацца беларуская музыка і песьня, ладзіліся першыя беларускія вечарыны. Любоў да свайго нацыянальна-беларускага беларускія колы Вільні захавалі і да сяньня. Таму зусім зразумела, што гэты горад робіцца для Забэйды-Суміцкага нібы сьвятою калыскаю. Няўтомны беларускі зьбіральнік, арганізатар і хормайстар Р.Шырма, слухаючы выкананьне беларускіх песьняў па радыё, запрашае Забэйду-Суміцкага прыняць удзел у сьвяткаваньні Дня Беларускае Культуры (у 1936 г.) у Вільні. Сьпявак радасна згаджаецца. Выступленьне перад беларускай аўдыторыяй было вялізарным здарэньнем у жыцьці, як віленчукоў, так і самога Забэйды-Суміцкага. Яно назаўсёды будзе стаяць перад ягонымі вачыма. Пяяў ён выключна беларускія песьні. Аднак сьпевака ніхто ніколі ня бачыў у твар, а бальшыня перапоўненае залі і зусім нічога не чула аб канцэртаньце. Забэйду-Суміцкага ахапіла такая трывога, якую ён яшчэ ніколі не адчуваў. Гэта быў экзамэн, змаганьне за назоў арыгінальнага беларускага сьпевака. Канцэрт пачаўся песьняю "Ляціць сарока". Толькі што яна скончылася, заля прыйшла у рух, і чым далей, тым больш расло захапленьне. Замест васьмі песьняў, вызначаных праграмай, Забэйда-Суміцкі бясконца паўтараў свае нумары на патрабаваньне публікі. Беларускі майстра знайшоў сапраўдную аўдыторыю слухачоў, з якою адразу пачуў арганічныя, глыбокія сувязі. Пасьля канцэрту моладзь падхапіла канцэртанта і панесла праз залю на руках, пад нямоўчную авацыю. Сьпявак знайшоў сябе, знайшоў сапраўдную глебу для мастацтва і свайго служэньня, знайшоў шчырую, пэўную дарогу для свае дзейнасьці. Колькасьць выступленьняў, вялікая удача, цесныя сувязі, выключна удзячныя водгукі прэсы прыйшлі самі сабой. Забэйду-Суміцкага літаральна закідвалі вянкамі і кветкамі, а канцэрт часта ператвараўся у сьвята нацыянальнага згуртаваньня беларусаў.

Працяг. Пачатак у № № 5-7.

---

Сяргей ГРАХОЎСКІ

### СІВЫ САЛАВЕЙ

**Падбіўся ў дарозе сівы салавей,**
**Нядужыя крылы падрэзала стома,**
**Далёка ад майскіх вішнёвых завей,**
**Прыстаў на ўзбярэжжы далёка ад дому.**

**Яго навальніцы хрысцілі агнём,**
**З падкрылкаў ляцела намоклае пер'е,**
**Дарогі заслала густым туманом,**
**Заблыталі сцежкі туга і нявер'е.**

**Падбіўся ў дарозе сівы салавей,**
**Расінкай напіўся, адхлынула стома,**
**Ачах у звільжэлай высокай траве,**
**Далёка-далёка ад роднага дому.**

**Як толькі душою крыху акрыяў,**
**Як толькі паверыў, што зноў уваскрэсне,**
**Забулькалі ў горле у салаўя**
**Нідзе не забытыя матчыны песні.**

**Становяцца крылы сівей і сівей,**
**Адзін на чужым узбярэжжы начуе,**
**І толькі бядуе стары салавей,**
**Што дома ніхто яго песень не чуе.**

Максім ТАНК

* * *

*Міхалу ЗАБЭЙДУ*

**Куды б цябе лёс ні закінуў,**
**Калі ты аб роднай краіне**
**Яшчэ захаваў успаміны,**

**Калі не забыў сваёй мовы**
**І колер блакіту вясновы,**
**Шум Нарачы, шэлест дубровы;**

**Ці маеш хоць жменьку зямлі той,**
**Калісь тваім потам палітай,**
**Кіёк падарожны з ракіты;**

**Ці нейкае з дому пасланне,**
**Ці толькі адно абяцанне**
**Цябе ўспамінаць на світанні**

**Пад крык жураўоў пералётных, --**
**Дык ты, на чужыне гаротнай,**
**Яшчэ не самотны.**

**("Глыток вады". Мінск, 1964 г.).**

# "МНЕ ЛЁСАМ ВЫЗНАЧАНЫ ГЭТАКІ ПРЫМУС..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Мой бацька меў вельмі грунтоўныя гуманітарныя веды, валодаў нямецкай і яўрэйскай мовамі, вывучыў нават старажытнаяўрэйскую, каб прачытаць Талмуд, -- сведчыць Ала Пятроўна.

Студэнцкі перыяд жыцця Пятра Шырокава быў багатым на падзеі: у гэты час у рэспубліканскім друку з'яўляюцца яго першыя нарысы і вершы, завязваецца сяброўства з такімі вядомымі сёння на Беларусі асобамі, як Уладзімір Клішэвіч, Масей Сяднёў, Якуб Ермаловіч, Мікола Гваздоў, якія тады таксама былі студэнтамі. Тут, у інстытуце, знаёміцца ён з Басяй Цыпінай, жанчынай, якая стане асобнай старонкай жыцця пісьменніка.

Узаемаадносіны паміж Шырокавым і Цыпінай заўсёды былі складанымі. Цяжка вызначыць, чаго больш прынеслі яны абодвум -- шчасця ці пакут. Шлюб іх не быў зарэгістраваны, але, як тлумачыць Ала Козел, у той час гэта не з'яўлялася абавязковым: калі мужчына і жанчына жылі разам, вялі агульную гаспадарку, яны лічыліся мужам і жонкай.

-- Прыйшла дахаты, а рэчаў маіх няма. Сястра тлумачыць: "Пятрок забраў іх да сябе ў інтэрнат: сказаў, што вы дамаўляліся", -- успамінала Цыпіна.

Вось так празаічна і крыху кур'ёзна пачалося іх сямейнае жыццё. Аднак было яно, на жаль, вельмі і вельмі кароткім.

Апошняя шчаслівая для Шырокава падзея ў студэнцкі перыяд адбылася 19 лютага 1936 года: нарадзілася дачка. Напярэдадні ён казаў жонцы: калі будзе сын -- назавём Алесем, а калі дачка -- Алесяй. Як гэта нярэдка здараецца, ёй такая прапанова не спадабалася, аднак Пятрок зрабіў тое, што хацеў: запісаў у пасведчанне аб нараджэнні -- Шырокава Аляксандра Пятроўна. Дома пасля гэтага, як няцяжка здагадацца, была сварка... Дарэчы, пасля вайны, аднаўляючы дакументы дачкі, Цыпіна запісала не як Алесю, а як Алу.

...Нядоўга цешыўся Шырокаў сваёй дачушкай. Праз восем месяцаў пасля нараджэння Алесі ён разам з іншымі студэнтамі быў абвінавачаны ў "буржуазным нацыяналізме", арыштаваны і асуджаны.

Невядома, што дакладна стала падставай для арышту Пятра Шырокава, аднак сведчанні Масея Сяднёва ў прыгаданым інтэрв'ю Б.Сачанку даюць пра гэта пэўнае ўяўленне. Самога Сяднёва абвінавацілі ў тым, што ён быў сувязным паміж ячэйкай у педінстытуце і Домам пісьменніка. Яго зрабілі лідэрам групы і таму далі на год больш (шэсць гадоў, а астатнім, у тым ліку і Шырокаву, -- па пяць).

-- У той час я чытаў творы Я.Пушчы, У. Дубоўкі, А.Моркаўкі, хоць яны ўжо былі забароненыя. Акрамя таго аднойчы, калі я ліквідоўваў непісьменнасць на люстраной фабрыцы ў Ляхаўцы, там у захудалай бібліятэцы знайшоў "Матчын дар" А.Гаруна і "Крывавы плакат" Я.Пушчы. Пры арышце ў мяне гэтыя зборнікі забралі, і "Матчын дар" фігурыраваў у маёй справе як рэчавы доказ... Інкрымінавалі мне і тое, што аднойчы, калі ішло абмеркаванне Сталінскай Канстытуцыі, рыхтуючыся да семінара па творчасці Якуба Коласа, я выпісаў яго радкі, якія датычыліся Мікалаеўскай Канстытуцыі:

**Канстытуцыю далі.**
**Адчынілі дзверы,**
**У астрог нас павялі**
**І таўкуць без меры.**

... НКУС запрасіў таксама і мой чытацкі фармуляр з інстытуцкай бібліятэкі, з якога высветлілася, што чытаў я галоўным чынам "упадніцкую" літаратуру, а не класікаў марксізму-ленінізму,.. -- успамінае Масей Сяднёў.

На жаль, вельмі мала захавалася звестак пра перыяд жыцця Тодара Лебяды з моманту арышту да перагляду судовай справы ў 1940 годзе. Аднак яго вершы "Вячорныя мроі", "Развітаньне з маленькай дачушкай", "У выгнаньне", а таксама даты пад імі даюць усе падставы меркаваць, што пасля арышту ён колькі месяцаў правёў у Мінскай турме і толькі восенню 1937 года быў адпраўлены на высылку:

**Бывайце, любыя**
**Загоны Беларусі!**
**У выгнаньне еду я,**
**Мой любы, родны край...**
**Апошні раз**
**На нівы падзіўлюся,**
**Скажу апошняе --**
**"Радзімыя, бывай!"**
**Травой пажоўклаю**
**Сухія сенажаці**
**Ад ветру восеньскага**
**Сумна шалясьцяць,**
**Бы адзінокая**
**Заплаканая маці**
**Хавае роднае**
**Апошняе дзіця.**
**Ці сніў, ці ведаў хто,**
**Што ў гэтакую восень**
**Пакіну вас.**
**Бо я -- ваш верны сын;**
**Здаецца мне,**
**Што жоўтае калосьсе**
**Паціху плача**
**Кроплямі расы...**
**А так цудоўна**
**У гэтакую пору**
**Саткала восень**
**На палі абрус!..**
**Цягнік імчыць**
**Апошнім касагорам,**
**І прамільгнула**
**Маці-Беларусь.**

*("У выгнаньне").*

Іншыя вершы Тодара Лебяды са зборніка "Песьні выгнаньня" сведчаць пра тое, што працаваў ён на Байкале, ёсць пазнакі пад двума з іх "Краснаярск, 1940 г." і "Ігарка, 1940г.".

Ала Пятроўна Козел успамінае таксама, што бацька распавядаў ёй пра пакуты ў турме пасля арышту: "На допытах нас прымушалі прыдумваць самім сабе віну. І мы прыдумвалі, седзячы ў камерах, каб хутчэй скончыліся катаванні..."

Распавядаў Шырокаў родным і пра тое, як падчас знаходжання ў выгнанні спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Замярзаючага, яго некалькі разоў вымалі з пятлі.

...Пасля арышту мужа Басю Цыпіну "за сувязь з "ворагам народа" выключылі з трэцяга курса педінстытута. У Мінску працы не далі, таму ёй разам з дачкой давялося выехаць у Смалявічы.

Тут Цыпіна настаўнічала ў мясцовай школе. Амаль увесь яе невялікі заробак ішоў на пасылкі Шырокаву, ні адну з якіх ён не атрымаў. Працуючы ў Смалявічах, Цыпіна пісала лісты ў розныя інстанцыі (і нават Сталіну) з просьбамі аб пераглядзе справы, па якой быў асуджаны яе муж.Як ні дзіўна -- хадайніцтва задаволілі. У канцы 1940 года Шырокава і яго студэнцкіх сяброў прывезлі для перагляду справы ў Мінск.

Бася Цыпіна разам з дачкой прысутнічала на судзе. Ала Пятроўна, якой тады было пяць гадоў, успамінае:

-- У зале сабралася вельмі шмат людзей. Свабодных месцаў не было, і мы разам з іншымі стаялі. Стаім. Уводзяць мужчыну ў блакітным світэры, сівога і з вялікай барадою. Маці кажа мне: "Глядзі, дачушка, гэта твой тата..." Бацьку тады было ўсяго дваццаць шэсць гадоў...

Я не магла запомніць і ўспрыняць тое, што гаварылі суддзі, але бацьку і іншых, хто праходзіў па гэтай справе, апраўдалі.

...Апраўдалі, але на волю не выпусцілі. Менавіта тады, у 1940 годзе, Тодар Лебяда пісаў:

**Мне лёсам вызначаны**
**Гэтакі прымус**
**Аб шчасці сяньня**
**Можна сьніць і марыць**
**За тое**
**Што я толькі -- беларус --**
**Мне гэтакая кара!**
**Я кару іхную**
**З пагардаю прыняў,**
**Бо я -- сын верны**
**Маці-Беларусі,**
**І я сьвятога**
**Гордага імя**
**Не адракуся!!!**

*("Надпіс на сцяне 95-й камеры").*

...Шанц на свабоду, на жыццё даў Тодару Лебядзе пачатак вайны. Вось што ўспамінае ў тым жа інтэрв'ю Б.Сачанку Масей Сяднёў:

—... Нам ужо не прыносяць баланды. На калідоры маўкліва, цёмна. Узнікае нейкая трывога. Мы адчуваем, што нешта змянілася. І, нарэшце, мы зразумелі: пачалася вайна. Час ад часу нас папярэджваюць: "Соблюдайте тишину!" Мы сядзім у трывозе, усё гудзе і гудзе -- гэтыя "манёўры". Нарэшце нам загадваюць выходзіць з рэчамі. На світанні мы выходзім... Павялі праз Мінск. Людзі пакідаюць горад. Спынілі свой рух машыны, трамваі. Вывелі нас з Мінска на шашу. Ужо было светла. Вялікая-вялікая калона выцягнулася ўзвівамі... Раптам наляцелі нямецкія самалёты. Канвой хаваецца, і мы хто на зямлю, хто ў трубы лезе... Праляцелі самалёты. Нас зноў пагналі... Так мы дайшлі да Чэрвеня, Канвой нас прывёў у двор чэрвеньскай турмы, і там нас пачала дапытваць камісія... Мы не ведалі, што гаварыць: ёсць у іх нашы дакументы ці няма? Я сказаў праўду -- і сваё імя, і прозвішча, і астатняе. І ў адпаведнасці з гэтым мне загадалі сесці ў адну з трох груп. Сеў я і гляджу, што там за людзі. У ёй я бачыў вайскоўцаў. Гэта група, у маім разуменні, здалася мне падазронай. Тут зноў наляцелі самалёты. Камісія пайшла ў сховішча. Я перапоўз за вугал, шапку насунуў на лоб, надзеў ватоўку, падняўся і стаў задам да сценкі. Самалёты праляцелі, камісія зноў выйшла са сховішча і пачала допыт. Адзін з камісіі заўважыў, што я стаю ля сцяны, падышоў да мяне і пытаецца; "Вас допрашивали?" Я кажу: "Нет". Я тады і надумаўся: буду хлусіць, што я працаваў у сёмай "исправительно-трудовой колонии", што мне да канца тэрміну засталося толькі два тыдні... Ён выслухаў мяне і паказаў пальцам на іншую групу людзей: "Сюда".

...Ужо была ноч. У двары стаяла некалькі грузавікоў; нечакана канвой нас пакінуў, забраўшы вайскоўцаў -- зняволеных з той групы ў двары, куды былі накіравалі мяне. Так я апынуўся на волі. На світанні мы з Пятром Шырокавым (яго часам называлі Шырокаў, ён друкаваўся пад псеўданімам Тодар Лебяда) пакінулі турму... Мы доўга не верылі, што мы на волі. І хоць пакінулі турэмны двор, але куды ісці -- не ведалі. Неяк нават дзіўна было, што самому гэта трэба вырашаць. За тады няволі адвыклі мы ад такога. У горадзе было ціха... Мы пайшлі на Магілёў, а тады раптам Пятро апамятаўся, што яму не па дарозе са мною, бо родам ён быў з Віцебшчыны. Мы развіталіся...



НА ЗДЫМКУ: Тодар ЛЕБЯДА (стаіць у цэнтры) сярод сваякоў у пасёлку Свабода-Заводскі (апошнія гады жыцця).

...Шырокаў узяў накірунак на Віцебск. У Оршы лёс падрыхтаваў яму прыемны, неспадзяваны сюрпрыз. Успамінае Ала Пятроўна Козел:

-- Ратуючыся ад немцаў, мы з мамай, як і многія іншыя, пакінулі Мінск. Дабраліся да Оршы. Тут на вакзале я ўпадабала алоўкі, якія прадаваліся ў кіёску, і папрасіла ў мамы купіць іх. Яна пайшла. Стаю, чакаю. Потым убачыла: мама ў абдымках нейкага чалавека. Гэта быў тата.

Памятаю, што ён шмат разоў паўтараў: "Трэба ісці ў Віцебск, да маёй маці. Туды немцы не дойдуць". Мы так і зрабілі, але наконт немцаў бацька памыліўся...

Калі варожыя самалёты бамбілі горад, мы хаваліся ў падвале. Аднойчы выйшлі з яго, а дома нашага -- няма... Пайшлі за горад, жылі ў полі, у трансфарматарнай будцы. Потым вярнуліся назад. Бацькі мае ўладкаваліся прыбіраць кватэры немцаў, якія спыніліся ў былой чыгуначнай бальніцы. За гэта нам далі пакойчык.

У хуткім часе немцы пачалі праследаваць яўрэяў. Маці мая была яўрэйкай, і ёй прыйшлося пакінуць Віцебск, каб застацца жывой. Зрабіла нейкім чынам новы пашпарт і стала Галінай Ільінічнай Шырокавай, узяла з сабой два кавалкі мыла і некалькі пачкаў махоркі для абмену на харч і пайшла. На наступны дзень прыйшлі да нас немцы, каб яе забраць... Звычайна, калі ў сям'і быў яўрэй, яны арыштоўвалі ўсю сям'ю. Але нас, на здзіўленне, не зачапілі.

Я засталася жыць з татам і бабуляй у Віцебску. Бацька працаваў дырэктарам тэатра, у падвальнае памяшканне будынка якога мы перасяліліся з чыгуначнай бальніцы. Нягледзячы на гэтую пасаду і на тое, што ў тэатры ішлі напісаныя ім п'есы ("Загубленае жыццё" і іншыя, якія распавядалі пра лагеры і турмы), бацька не мог дабіцца добрай аплаты сваёй працы, ды і, па шчырасці, не хацеў гэтага рабіць. У той час выратоўвала нас бабуля: збірала грыбы, ягады, шчаўе і прадавала на базары. Хоць нейкая капейка ад гэтага, ды была...

Помню, што бацькавы п'есы заўсёды збіралі вельмі шмат гледачоў. Людзі падчас спектакляў заходзіліся ад плачу.

Калі немцы адступалі, мы паехалі ў Дзвінск (цяпер Даўгаўпілс), потым у Лентварова Віленскай акругі. Тут мы з бабуляй засталіся жыць, а бацька з артысткай Верай Жгут паехаў у Прусію. Ён ведаў, што, калі застанецца на Беларусі, абавязкова зноў трапіць у турму.

Аднак прабыў бацька за мяжой нядоўга. Ён быў чалавек дужа горды і не вытрымаў прыніжэнняў. "На адным вагоне ў іх напісана: "Толькі для немцаў", на другім -- "Для астатніх і пасажыраў з сабакамі", -- пазней успамінаў тата.

На савецкай мяжы ён здаўся ўладам. У хуткім часе бацьку асудзілі, але адразу не на 25 гадоў, як піша ў сваім артыкуле Сяргей Чыгрын, а да вышэйшай меры пакарання. Бацька ўспамінаў: "Пасля вынясення прысуду я два тыдні сядзеў у камеры для смяротнікаў. Часта мне здавалася, што са мной размаўляюць сваякі, якіх ужо не было на гэтым свеце. Ва ўяўленнях я бачыў іх. Відаць, вар'яцеў паціху. Толькі, калі адчыніліся дзверы камеры і мне паведамілі, што смяротная кара заменена 25 гадамі пазбаўлення волі, я апамятаўся. Першае, што ўсвядоміў: "Буду жыць!"

...А потым -- зноў выгнанне. Сярод месцаў, дзе бацька адбываў тэрмін, памятаю два -- Варкута і Салават. Вызвалілі яго з-пад варты амаль што праз дзесяць гадоў. (Як я сёння разумею, паспрыяла гэтаму смерць Сталіна).

Бацька вярнуўся да нас. Але мама тады ўжо была замужам за Сямёнам Мінахіным, з якім пазнаёмілася ў вайну ў партызанскім атрадзе. Тата паехаў на Разаншчыну, у пасёлак Свабода-Заводскі, дзе жыла настаўніца Еўдакія Бязрукава. З гэтай адзінокай жанчынай ён пазнаёміўся па турэмнай перапісцы: нехта са знаёмых нявольнікаў даў яму яе адрас. Бязрукава прыняла бацьку. Ён уладкаваўся працаваць цырульнікам у мясцовы інвалідны дом.

У маці з айчымам сямейнае жыццё не ладзілася. Мне надакучылі іх сваркі, і я паехала да бацькі. Працавала ў школе ў вёсцы, што знаходзілася за некалькі кіламетраў ад пасёлка. Але прыйшлося вярнуцца ў Чэрвень: айчым скончыў жыццё самагубствам, і мама папрасіла мяне вярнуцца. У хуткім часе да нас зноў прыехаў бацька. Але адносіны паміж ім і маці не склаліся, і ён ад'язджае ў Слонім. Там працуе на кардоннай фабрыцы, шмат піша.

У студзені 1962 года бацька звальняецца з працы і трэці раз прыязджае ў Чэрвень. Тут ён уладкоўваецца на працу ў рэдакцыю газеты "Уперад", дзе друкуецца пад псеўданімам Клім Каліна. Жыве бацька з намі, але нядоўга. Праз некалькі месяцаў, пасля чарговага разладу з мамай, ён зноў ад'язджае на Разаншчыну да Бязрукавай. Цяпер ужо назаўсёды.

У Свабода-Заводскім ён пабудаваў новы дом, пасадзіў сад. Бацька ўпадабаў пецьь, вельмі любіў адзначаць усе рэлігійныя святы. Не ведаю, ці пісаў ён там што. На жаль, пра яго творчасць мне мала што вядома. І па сённяшні дзень не маю ніводнага яго друкаванага радка. Быў у мяне, праўда, зборнік "Песьні выгнаньня", але, калі тату другі раз пасадзілі, бабуля параіла мне кудынебудзь закапаць гэту кніжку. Я і закапала... проста ў пясок. А калі апамяталася, яе ўжо на тым месцы не знайшла... Яшчэ ад маці чула, быццам бы напярэдадні першага арышту бацькі ў выдавецтве знаходзіўся яго раман пра жыццё чыгуначнікаў, які потым "пайшоў пад нож".

У апошнія гады жыцця бацьку непакоіла сэрца. Ён перанёс два інфаркты і на пачатку 1970 года памёр. Там, у Свабода-Заводскім, і пахаваны. Спраўдзіліся татавы словы, якія ён некалі нам сказаў: "Відаць, мне лёсам наканавана ляжаць у чужой зямлі..."

...На жаль, гэта пакуль усё, што вядома пра Тодара Лебяду. Хацелася б ведаць больш. Надзеі на гэта ёсць: зараз спрабую наладзіць перапіску з яго аднавяскоўцамі і сваякамі з пасёлка Свабода-Заводскі. Хочацца верыць, што прыйдзе час, калі ў гісторыі жыцця і творчасці пісьменніка не застанецца белых плямаў.

**Ігар АДАМОВІЧ.**

## З УСПАМІНАЎ ПРА Якуба КОЛАСА

# ДЭЛЕГАТ

Здаецца, ішоў 1954 год. У той далёкі час я быў студэнтам. Жылі мы ў нямецкіх бараках каля Шостай лініі, цяпер тут тэрыторыя Політэхнічнай акадэміі. З дому рэдка прывозілі торбу, ды і тая небагатая была: паўпуда бульбы, бохан хлеба, крыху мукі. Зімою, здаралася, і кавалак сала трапляў у торбу. Адзяваліся "шыкоўна": хто пераніцаваны шынель бацькаў насіў, кортавыя порткі, дзве кашулі -- шарачковая на кожны дзень, а крамная па святах і брызентавыя туфлі на ногі. Бывала, як нашмальцуеш зубным парашком гэтыя туфлі, ажно праменяць на сонцы. Зухавалі ў іх па праспекту з дзяўчатамі. Зімой на плечы ўскладзеш суконны лапсардак ці кажушок, пашыты вясковым шаўцом. Рук сваіх не шкадавалі: на таварнай станцыі заўжды была чарга студэнтаў, гатовых разгрузіць вагон--другі, каб зарабіць сабе на хлеб. Так што жылося весела і шчасліва, і навуку грызлі па начах.

Мне раптам пашанцавала: я стаў "дэлегатам" вялікага партыйнага форуму дзякуючы Якубу Коласу. З гэтай нагоды ў мяне з'явіўся шыкоўны касцюм, сіняе габардзінавае паліто, новая шапка-вушанка, хромавыя чаравікі на нозі. Сябры-студэнты глядзелі, як на дзіва, мацалі рукамі абноўкі. Адзін, па прозвішчу Поклад, не вытрымаў:

-- Слухай, каб я меў такога дзядзьку, дык дзяўчаты ажно б падалі... Дасі фрэнча пазухаваць на вечар?

-- А мне порткі падыдуць, -- адгукнуўся таўставаты Бабёр.

Больш разважлівы Жыбуль практычна падышоў да гэтай праблемы:

-- Цяпер, хлопцы, раздзяваць яго не будзем. Там у валёнках і латаных штанах не прасунешся, гэта ж з'езд КПБ... Як піць даць, ад варот паварот. А, во, у сталоўку іхнюю я таксама пайду з Сымонам. Глядзі, там можна тое-сёе атаварыць з гэтай харчовай кніжкі, дык усім будзе.

На гэтым пагадзіліся. Але Жыбуля ў сталоўку ЦК не пусцілі. Я абедаў за сталом з двума генераламі, адзін быў у цывільным. Тое, што ўбачыў на стале, мне ніколі не снілася. Нават не ведаў, з чаго пачаць. Вырашыў усё паўтарыць за генераламі. Толькі ж яны елі ляніва, з майго боку на стале было пуста. Я кульнуў пару бакалаў піва, захмялеў і пасмялеў, не аглядваўся па баках, як заяц. Два апельсіны паклаў у кішэні, чым выклікаў усмешку на пухлым твары генерала. Ён падаўся дабрадушным. Назаўтра да мяне падышоў чалавек у цывільным і пытаецца:

-- Малады чалавек! Вы з якога раёна прыехалі?

-- Са Стаўбцоўскага. А што?

-- А нічога, займайцеся сваёй справай.

Па праўдзе кажучы, душа ў пяты скочыла. Дзядзька Якуб, сапраўдны дэлегат, не раіў высоўвацца наперад і мальдаваць, адкуль харчовая кніжка. Усёй істотай адчуў: гэты цывільны, стрыжаны пад вожык, штосьці пранюхаў. Вырашыў параіцца з сябрамі. Той жа Жыбуль настойваў, каб я атаварыў талоны ў буфеце N 7 КПБ. Пакой падняў рукі "за"... Нічога не заставалася, як выканаць волю сваіх аднакурснікаў. На гэты раз я не пайшоў за стол да генералаў, круціўся каля буфета. Прывабная буфетчыца з ямачкаю на румяным твары, хораша маргнула мне, паказаўшы рад белых, нібы часнок, зубоў. Асмялеўшы такім чынам, рушыў да маладзіцы, але "вожык" у цывільным, як цень, узнік перада мною. Сэрца хутка забумкала ў грудзях.

-- Чаму вы не снедаеце? -- лагодным голасам запытаўся ён.

-- Я... я хацеў атаварыць, хлопцы прасілі...

-- Якія хлопцы? -- павысіў ноту ў голасе вожык.

-- Якія-якія, студэнты! -- сарвалася з языка. Раптам злосць агарнула мяне.

-- Адкуль у вас харчовая кніжка?

-- Якуб Колас, мой дзядзька, даў, вось і ўсё...

Курносы твар вожыка засвяціўся, як сонца, стаў такім добрым і ўважлівым, хоць да раны прыкладай.

-- Спачатку, браток, паснедаеш, -- ён падхапіў мяне пад руку, амаль што сілаю ўсадзіў каля генералаў. -- Вось і наш дэлегат... -- і штосьці шапнуў ім на вуха, тыя дружна зарагаталі. У аднаго нават вочы заслязіліся.

-- Ты, брат, не саромейся. Студэнтаў у крыўду не дадзім. Нажымай на харчы, і тваім сябрам застанецца. Успомняць добрым словам Якуба Коласа. Мой шафёр мігам даставіць цябе, куды трэба. -- Неяк па-бацькоўску і прыязна пасміхнуўся генерал з круглым тварам і моцна пацiснуў маю руку... Дальбог, першы раз у жыцці я меў такую ласку ад самога генерала. Цывільны атаварыў талоны не толькі "дэлегата-студэнта", відаць, генералавы таксама, бо вельмі шмат рознай каўбасы, апельсінаў, мандарынаў, нейкай там пастрамы, чырвонай рыбы, кансерваў наклалі ў дзве скрынкі, як падняць. Нават піва прыхапіў з сабою ўвішны шафёр Васільевіч. Словам, у гэты вечар я атрымаў мянушку "дэлегат". І яна прыліпла, як дзёгаць да цела.

Назаўтра на кухні дзядзькі Якуба давялося спаткацца з паэтам. Цётка Міхаліна, ягоная сястра, карміла нас абедам. Я кінуў позірк на дзядзьку, ён сёрбаў з міскі рытмічна, а ў вачах гулялі смяшынкі, і твар, з сівою аўчынкаю пад пародзістым носам, быў вясёлы. А ў мяне пачаў псавацца настрой, бо чакаў ад дзядзькі прачуханца. Адчуваў: яму штосьці вядома пра мой дэлегацкі дэбют. І не памыліўся.

-- Ну як, "дэлегат", крыху падмацаваўся? -- ён кіўнуў галавой на пусты посуд. -- Цётка Міхаліна, мусіць, смачней рыхтуе страву, чым у сталоўцы?

-- Там лепшыя прысмакі, -- выціснуў я, -- але...

-- Але, кажаш, хоць рэдка, ды едка, -- Якуб Колас з нейкай хітрынкай падміргнуў сястры Міхаліне. -- Дык ты там папаўся, як лісіца ў саладуху. Адразу заўважылі маладога "дэлегата".

-- Каб я не сунуўся атаварыць, то ўсё было б ціха, не прыставаў бы той, што пад вожык стрыжаны... А тут неяк само сарвалася з языка...

-- Што ж, на язык няма прывязі, што праўда, то праўда, Сымоне... Ну, а твае сябры засталіся задаволены?

-- Чаму ж не. За адзін вечар той правіянт, як карова языком злізала. Ім хоць воўна, абы ў жываце поўна... Казалі, добра было б, каб я яшчэ дэлегатам куды-небудзь трапіў. Дык яны б сцяною за мяне.

-- Выходзіць, куды грамада, туды і я. За агульным сталом яда смачнейшая, нябож, -- бадзёрым голасам дадаў паэт. -- Добра, што так атрымалася. Бачыш, мы абодва сталі дэлегатамі. Толькі я порткі шмуляў цэлымі днямі на пасяджэннях, а ты будзеш успамінаць сталоўку, генералаў... І тое, што твае сябры крыху папрактавалі, пайшло на карысць, не прапала дабро.

Якуб Колас панізіў голас, уважліва глянуўшы на мяне. На яго вуснах гулялі смяшынкі, але не такія вясёлыя, а мо проста здалося.

-- Твае жыццё, Сымон, наперадзе. Бачыш, гэтыя вожыкі, калі трэба, бываюць рахманыя, паслухмяныя, а часам калючыя...

Коласаўскую загадкавую ўсмешку па-сапраўднаму я ацаніў значна пазней.

**Сымон БЕЛЫ.**

## НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



**Выстава народнай творчасці, што праходзіць у бібліятэцы імя Пушкіна ў Мінску, -- свята фантазіі, творчасці і прыгажосці. Працы, прадстаўленыя на выставе, здзіўляюць сваёй разнастайнасцю. Аказваецца, з дрэва можна выразаць пяшчотны дзявочы тварык, ("Дзіця прыроды" С.Сырапушчынскай), а можна "Мужчыну ў гневе" (В.Сярэдзіч).**

**С.Сырапушчынская стварае рамантычныя драўляныя скульптуры. Яны -- увасабленне лёгкасці і прыгажосці. "Зорка Венера" зроблена ў выглядзе жанчыны, якая, здаецца, вось-вось павінна ўзляцець. Працы з дрэва здзіўляюць пластычнасцю, узнікае ўражанне, што яны не выразаны, а вылеплены з нейкага мяккага матэрыялу.**

**С.Сырапушчынская займаецца не толькі драўлянай скульптурай, але стварае і цікавыя пано. На выставе іх два. На адным -- Змей Гарыныч, на другім -- крылаты конь. Зроблены яны з саломкі.**

**Выстава народнай творчасці цікавая тым, што побач з упрыгажэннямі на ёй -- бытавыя рэчы. Упрыгажэнні на выставе -- гэта драўляныя пярсцёнкі, бранзалеты. Народная артыстка Беларусі Стафанія Станюта робіць цікавыя пацеркі з зярнятаў, костачак раслін. Калі ўмела іх апрацоўваць і фарбаваць, можна зрабіць прыгожыя рэчы.**

**Сярод прадметаў хатняга ўжытку на выставе -- маслабойка і бочачкі, лыжкі і кошыкі. Ёсць вырабы з саломкі. Так што народныя рамёствы пакуль жывыя.**

**Алена СПАСЮК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, займаецца даследаваннем народнай міфалогіі. Прапануемыя ўвазе чытачоў апрацаваныя легенды ўвойдуць у першы том кнігі, якая будзе прысвечана паходжанню назваў населеных пунктаў паводле легенд і паданняў.**

# ІВАЦЭВІЧЫ

А здарылася ў гэтых мясцінах вось што. Некалі жыў ды быў надта багаты і мудры князь. Багацця і войска ў яго было колькі хочаш. Баяліся ворагі валадара, трымцелі пры адным толькі згадванні імя непрыяцелі і нядобразычліўцы, ніхто не хацеў з ім варагаваць, заўсёды прапаноўвалі толькі вернае сяброўства. Ды такога вопытнага і мудрага чалавека правесці на мякіне нельга было. Усё ведаў наперад. Не паспее нейкі зьлыдзень задумаць абхітрыць валадара, а ён ужо ведае пра гэта і паспее прыняць адпаведныя захады, каб не здарылася нічога благога і злы чалавек быў пакараны. Нават пра нейкую самую дробязную паслугу памятаў заўсёды.

Да сябе імкнуўся набліжаць таксама добразычлівых і разумных, мудрых ды справядлівых. На іх можна было абаперціся ў любы момант, не хвалюючыся асабліва пра тое, што нечакана нанясуць удар у спіну. На слуг і на больш блізкіх асоб спадзяваўся і давяраў ім у любых выпадках, як самому сабе. А калі чалавеку верыш, ён, вядома ж, будзе даказваць сваю прыхільнасць і вернасць. Так усё і вялося. Не надта любіў валадар сядзець дома і займацца пустымі размовамі. Ён пастаянна знаходзіўся ў сядле, правяраў абсягі сваіх шматлікіх уладанняў. Надзвычай любіў займацца рыбалкай, а яшчэ болей -- звярынымі ловамі. Тады паважны, стрыманы князь ператвараўся ў самага звычайнага рыбака ці паляўнічага. Аднаго разу гэткая заўзятасць і няўрымслівасць ледзьве не каштавала князю жыцця. А адбылося ўсё пры наступных абставінах.

Вырашыў князь парадаваць сваіх шматлікіх гасцей і знаёмых ды запрасіў іх на звярыныя ловы. Хацеў паглядзець, як яны будуць паводзіць сябе ў экстрэмальнай сітуацыі, дзе трэба прадэманстраваць і сілу рукі, і зоркасць вока, не гаворачы ўжо пра ўменне добра трымацца ў сядле і хутка ездзіць. Папярэдзіў запрошаных, што будуць паляваць толькі на буйных звяроў: зуброў, тураў, ласёў.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ІВАЦЭВІЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Прачнуліся яшчэ цёмначы і рушылі конна на дальні лес, дзе ўжо павінны былі чакаць загоншчыкі і слугі з сабакамі. Гадзін праз колькі даехалі да месца. Князь і ягоныя сябры ды родныя занялі адпаведныя пазіцыі і стаіліся. Дзесьці далёка прагуў паляўнічы рог, і лес напоўніўся шматлікімі галасамі. Да іх далучаўся сабачы брэх. Сабак, відаць, ужо адпусцілі з ланцугоў, і яны гналі па лесе звяроў. Пушча, якая маўклівa стаяла да гэтага можа год ці два, адчайна шумела, нібы гэтым самым імкнулася папярэдзіць аб небяспецы звяроў, гнаных прама на калёныя стрэлы і вострыя дзіды.

Потым пачаў даносіцца трэск голля ды маладых дрэўцаў: гэта напрамую імчаліся, уцякаючы, звяры. Білі іх моўчкі, зацята, нібы выконваючы стаўшую будзённай справу. Ужо вялікія гурбы звяроў утварыліся амаль каля кожнага з паляўнічых, і князь узняў свой замочаны паляўнічы рог, зроблены таксама з рога ўпаляванага ім самім старога тура, калі ўбачыў агромністага зубра, што ва ўпор ляцеў, нібы віхор, напралом. Не вытрымала азартнае сэрца. Гікнуў князь на каня і панёсся за зверам. Ахова, якая заўсёды вылучалася ўвагай і імклівасцю, на гэты раз не ўбачыла, што князь ад'ехаў з займаемага на ловах месца.

А князь гнаў каня за ўцякаючым зубрам. Раз-пораз нацягваў свой цісавы лук, і чарговая гартаваная страла ўпівалася ў звера. Ён ужо нагадваў сабою вожыка, бо доўгія стрэлы тырчэлі з ягонага загрыўка. Толькі стваралася ўражанне, што гэтыя раны быццам не заміналі патрыярху лясоў уцякаць, а надавалі яму хуткасці і сілы. Князь ужо не першы раз паляваў на зуброў, але такое бачыў упершыню. Таму, мабыць, і жадаў ён усё-такі дагнаць звера, дабіць яго, не выпусціць жывым, даказаць іншым, а можа, у першую чаргу, сабе, што чалавек больш моцны за любога звера. Разважанні князевы ледзьве не каштавалі яму жыцця. Звер ці то адчуў гэта, ці то проста неставала ў яго, скрываўленага, сілы ўцякаць, але ён раптам спыніўся. Конь жа з разгону наскочыў на яго, а разгублены вершнік не змог ударыць свайго саперніка дзідай. Мёртвы конь упаў на князя і прыдушыў яго сваім цяжкім целам. Паспрабаваў было чалавек неяк вызваліцца, ды толькі гучна застагнаў. Раз'юшаны звер, панура нахіліўшы галаву, не спяшаючыся, насоўваўся на пераможанага ворага. Яшчэ хвіліна-другая -- і паплаціўся б паляўнічы жыццём, бо зубр пачаў шкуматаць рагамі забітага каня. Аднак у гэты момант князь убачыў, як з-за дрэва да зубра кінуўся цень і хтосьці стрэў звера ёмкім цурбалкам. Той не чакаў гэтага, удар заспеў яго знянацку. Чалавек, які гэтак раптоўна тут узнік, не здаваўся без бою, нягледзячы на тое, што ў ягоных руках быў звычайны нож. Ён рухаўся, не забываючы, што яму нельга хавацца, бо тады паранены князь станавіўся для звера лёгкай здабычай. Нарэшце зубр не вытрымаў і штосілы кінуўся на свайго праціўніка. Той спакойна стаяў і... усміхаўся. Звер з усяе сілы матлянуў галавою, спадзеючыся ўдарыць чалавека. Але таго ўжо не было там, дзе ён знаходзіўся імгненне раней. Звер узвіўся. Чарговую атаку ён правёў без лішняй падрыхтоўкі. У адной руцэ чалавека была світка, а ў другой -- нож. Калі зубр параўняўся з незнаёмцам, той нечаканым і ледзьве прыкметным рухам накінуў яму на галаву світку, а праваю рукою ўдарыў свайго праціўніка прама ў сэрца. Хвілін колькі магутная постаць дрыжэла і калацілася, потым грузна, з нейкім працяжным, жаласлівым муканнем гохнулася долу. Чалавек выцер аб ягоную поўсць свой скрываўлены нож і, заткнуўшы за пояс, пакіраваў да князя. Той ужо ад болю ды цяжару каня на сабе амаль страціў прытомнасць.

Добра намучыўся незнаёмец, пакуль выцягнуў князя з-пад каня. А ўжо цёмна стала ў асеннім лесе. Нічога іншага не заставалася, як раскласці вогнішча і чакаць світання, а потым паспрабаваць вынесці на сабе параненага князя да людзей. Таму стала крыху лягчэй, і ён папрасіў вады. Чалавек ад вогнішча пакіраваўся ў цемру і неўзабаве вярнуўся з карцом, поўным сцюдзёнай вады. Знясілены паляўнічы прагна прыпаў да пасудзіны. Потым, адкінуўшыся на падкладзеную пад галаву світку, запытаўся:

-- Ты хто?

-- Я адзін з загоншчыкаў, княжа, Іванцэвіч маё прозвішча...

-- А чаго ж ты тут апынуўся, загоншчык?..

-- Скажу шчыра, валадар, хацеў раней дамоў трапіць і пабег назад, у той бок, адкуль мы звяроў гналі... Потым заўважыў, як ты на кані за зубрам ляцеў... Цікава стала, як жа яно далей складзецца... Вырашыў паглядзець,.. -- ціха скончыў той.

-- Зразумела, -- азваўся князь, -- трапіў ты дахаты раней... Цяпер невядома, што далей...

-- А што далей? -- перапытаў Іванцэвіч. -- Дачакаемся раніцы, і панясу цябе, княжа, на плячах да нашай вёскі, калі ахова ды слугі да гэтага часу не прыспеюць... А зараз паспрабуй заснуць, я павартую тым часам.

...Ачуняў князь ад таго, што навокал чулася прыцішаная гамонка, фыркалі коні, ля вогнішча мітусіліся людзі. Стала зразумела: іх знайшлі. Калі князя паклалі на насілкі, ён загадаў прывесці Іванцэвіча. Загоншчыка падвялі. На гэты раз адчайны чалавек стаяў перад гаспадаром без шапкі, нізка апусціўшы галаву.

-- Прыйдзеш заўтра ў мой абоз, які стаіць на тым месцы, дзе сёння палявалі...Зразумеў?..

-- Так, княжа...

...Калі загоншчык прыйшоў у княжы абоз, багаты валадар паставіў перад ім змястоўную скрынку з золатам і загадаў:

-- Бяры, колькі табе пажадаецца! Жыццё ж больш дарагое, чым золата! Бяры, не бойся!

Але і загоншчык, нягледзячы, што быў з сялян, аказаўся чалавекам мудрым. Узяў ён свой дубовы кіёк, з якім не разлучаўся амаль ніколі, рассунуў золата, каб кіёк упёрся ў дно скрынкі, і прамовіў:

-- Сапраўды, княжа, тут даволі многа золата, але дно дастаць пры жаданні можна. Значыцца яно, гэтае залатое шчасце, не вечнае, прыйдзе і яму канец. Дый золата больш патрэбна валадару, чым простаму чалавеку. Прашу, княжа, дай ты мне такі падарунак, каб я не змог у ім дна дастаць...

Прызадумаўся князь, але не раззлаваўся. Хвілін колькі маўчаў, а потым кажа:

-- Справа ў тым, загоншчык, што нават, калі б я сабраў са свайго княства золата да драбніц, то ўсё роўна ты яму дно дастанеш.

Засмяяўся загоншчык:

-- Хадзем, валадар, я пакажу табе, дзе не здолею дна дастаць, там і ляжыць тое бяздоннае багацце!

Выйшлі яны ў двор. Папрасіў Іванцэвіч у аднаго з дружыннікаў меч, і калі той даў яму яго ў рукі, з усяго маху засунуў меч у зямлю:

-- Вось яно, княжа, багацце, дзе днакраю няма: яно мне больш падыходзіць. Грошы што? Грошы могуць непрыкметна разысціся, ці іх украдуць, а вось зямлю -- не, зямля заўсёды з аратым застанецца.

Усміхнуўся князь, засмяяліся слугі і дружыннікі, усім даспадобы прыйшоўся адказ загоншчыка. Выгукнуў задаволены гаспадар:

-- Будзь па-твойму, чалавеча! Дам табе зямлі да скону роду твайго! Колькі будзеце жыць, столькі будзеце валодаць!

Па яго загаду напісалі тут жа грамату і ўрачыста ўручылі Іванцэвічу. Падзякаваў той князю за шчыры падарунак і пайшоў сабе дамоў. А потым, неўзабаве сабе, родным хаты пабудаваў якраз пасярэдзіне сваіх уладанняў, а паселішча назвалі людзі Іванцэвічы, гэта значыцца, адтуль пайшлі сучасныя Івацэвічы.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**

*З НОВЫХ ПЕСЕНЬ*

## КРАСА НАВАКОЛЬНАЯ

Словы І. ЦІТАЎЦА — Музыка М. СЛІЗКАГА



Крывічамі народжаны,
Дрыгвічамі ўвесь сходжаны,
За стагоддзі ўпрыгожаны,
Родны горад стаіць.
Галавой непакорнаю
І паставаю гордаю
На палеткі прасторныя,
Быццам волат, глядзіць.

Прыпеў:

А імгненні пылінкамі
Адлятаюць з хвілінкамі.
На зямлі не былінкаю --
Гаспадар-чалавек.
А наш Мінск --
Гордасць стольная,
Прыгажосць навакольная.
Цуда-песня раздольная --
Гэта помнік навек.

Рана Свіслач з Нямігаю
Сталі сведкамі-кнігамі,
Дзе з вайной і адлігамі
Шмат лятала вятроў.
Тут паходы крыжовыя,
Дні нашэсця суровыя,
І нагайкі свінцовыя
Ад паноў і цароў.

Прыпеў.

Пад фашысцкімі коламі
Разгаралася полымя.
Горад сэрцам і порамі
Быў у цэнтры падзей.
Ён -- душа працавітая,
Дабрынёю спавітая
І сталіца адкрытая
Для сумленных людзей.

Прыпеў.

*СПОРТ*

## НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

Мільёны людзей планеты бачылі афіцыйнае адкрыццё XVII зімніх Алімпійскіх гульняў у Ліпехамеры. Нарвежцы, аддадзім ім належнае, паказалі, як трэба прымаць гасцей і як трэба арганізоўваць такія спаборніцтвы.

Не будзем падрабязна спыняцца на ўсім, што адбылося 12 лютага ў дзень адкрыцця Гульняў. Хіба толькі адзначым зварот прэзідэнта алімпійскага руху Х. Самаранча, які звярнуўся да ўсіх канфліктуючых краін свету з прапановай спыніць усякія ваенныя дзеянні на час Гульняў. І адразу прыклад тут, у адрозненне ад іншых, падалі Арменія і Азербайджан, якія прыслухаліся да голасу розуму.

...Першыя старты. Гульні пачалі хакеісты. Менавіта іх турнір на Алімпіядзе будзе самым працяглым. Пачатак спаборніцтваў прынёс і сюрпрызы. Сярод іх, вядома, пройгрыш зборнай Расіі фінам з лікам 0:5. Але ўжо ў наступным туры нашы бліжэйшыя суседзі перамагаюць каманду Аўстрыі і практычна ўваходзяць у васьмёрку лепшых, якія і павядуць барацьбу за медалі.

...Адкрываюць спаборніцтвы лыжніцы. І зноў сюрпрыз: у гонцы на 10 кіламетраў першай на фінішы была прадстаўніца Італіі Дзі Чэнта. А праз дзень расіянка Любоў Ягорава (другое месца на дзесяцікіламетровай дыстанцыі) заваёўвае "золата" ў гонцы на 5 кіламетраў.

Перамогі канькабежцаў, фігурыстаў выводзяць пакуль зборную Расіі на першае месца.

А што ж беларускія спартсмены? На жаль, мы нічым не можам парадаваць балельшчыкаў за нашу каманду. Лепшае, дзесятае месца, канькабежца Ігара Жалязоўскага на "пяцісотцы" -- пакуль самы высокі вынік. Праўда, наперадзе яго любімая дыстанцыя -- 1000 метраў, не ўступалі яшчэ ў барацьбу нашы біятланісты... Адным словам, надзея памірае апошняй. Будзем спадзявацца, што дэбют зборнай Беларусі на зімовых Гульнях пройдзе паспяхова.

Апошняе. Вельмі шкада, што на афіцыйным адкрыцці Алімпіяды спартсмены Беларусі выглядалі "страката". Няўжо распрацоўшчыкі адзення забыліся на нашы нацыянальныя традыцыі, не здолелі падрыхтаваць для зборнай каманды належную форму? Ад гэтага застаўся нейкі непрыемны асадак у аматараў спорту, якія "хварэюць" за нашых алімпійцаў, што выступаюць у Ліпехамеры.

## ПАПРАЎКА

У № 1 "Голасу Радзімы" за 1994 год у матэрыяле "Новыя звесткі да біяграфіі Вацлава Ластоўскага" дапушчана недакладнасць. На стар. 6 у першай калонцы трэба чытаць: "У адным з іх **(ф.1781, воп.37, спр.37)** пад агульнай вокладкай...".

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зварстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.214. Падпісана да друку 21. 2.1994 г.